*Васіль Гадулька*

# ГОЛАС

*Зборнік*

МІНСК
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«ЛИТЕРАТУРА И ИСКУССТВО»
2004

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Бел)5
Г13

Укладанне *Леаніда Галубовіча*

Фота *Аляксея Ганчука*

У афармленні вокладкі выкарыстана карціна «Вечар» украінскага мастака *Міколы Пашкоўскага.*

*Кніжка выдадзена пры фінансавай падтрымцы фірмы **«БЕЛПІ»** — Беларускае піва (каардынатар **Леанід Дайнека**).*
***Любі сваё!***

ISBN 985-6720-08-7

# Васіль ГАДУЛЬКА



(1946—1993)

*Васіль САХАРЧУК*

# Між змрокам і святлом

У Борхеса ёсць нізка кароткіх апавяданняў пра міфічных істот. Адно з іх — «Ламядвойнікі» — прысвечана героям габрэйскай легенды. Паводле яе ламядвойнікі, якіх на зямлі заўсёды дванаццаць, з'яўляюцца абраннікамі Бога, але ніхто пра гэта не ведае, і нават яны самі не здагадваюцца пра сваю абранасць.

Жывуць ламядвойнікі вельмі сціпла і бедна, абыходзячыся тым, што ёсць, не прэтэндуючы на большае, але заўсёды гатовы падзяліцца апошнім. Пазбаўленыя зайздрасці і сквапнасці, чыстыя ў думках, памкненнях і ўчынках, яны нібыта не заўважаюць сваёй беднасці і цярпліва пераносяць усе жыццёвыя нягоды і выпрабаванні. Падсвядома падпарадкаваныя лёсу, такія людзі мужна і маўкліва нясуць свой крыж і ні ў чым не наракаюць на гаротную долю. А як толькі хтось з іх нейкім чынам даведваецца пра сваё наканаванне быць ламядвойнікам, ён раптам памірае, і яго месца сярод людзей адразу ж займае новы богавы абраннік, таму колькасць іх на зямлі нязменная.

Часам мне міжволі думаецца, што такім ламядвойнікам быў Васіль Гадулька, бо ўмовы і абставіны яго жыцця поўнасцю супадаюць з варункамі жыцця богавых абраннікаў, пра якіх расказаў Борхес.

Не сумняваючыся ў нябеснай абранасці Васіля Гадулькі як паэта пасля таго, як у 1986 годзе ён упершыню даверыў мне свае вершы (праўда, не сам, а праз бібліятэкарку), я набыў у яго асобе новага сапраўднага і надзейнага сябра і прысвяціў яму трыялет. Тады я і блізка не мог дапусціць, што яму адпушчана пражыць толькі шэсць гадоў і гэты трыялет разам з іншымі вершамі будзе ўплецены ў жалобны вянок і ляжа на яго магілу:

І слых, і музыку, і мову
далі табе нябёсы ў дар,
і ты прынёс, бы на алтар,
і слых, і музыку, і мову.
І я шапчу, нібы замову,
каб не згарэў твой дух у сквар:
і слых, і музыку, і мову
далі табе нябёсы ў дар.

У тым жа годзе неўзабаве пасля таго, як вершы Васіля Гадулькі былі надрукаваны ў жабінкаўскай раённай газеце «Сельская праўда», паэт, які зрабіў першую заяўку пра сябе, адсвяткаваў сваё саракагоддзе. Гэта было 17 мая, а ў снежні паэт стаў удзельнікам традыцыйнай рэспубліканскай літаратурнай нарады, у той год упершыню праведзенай у Доме творчасці «Іслач».

Паэзію Васіля Гадулькі высока ацаніў Рыгор Барадулін, які літаральна смакаваў яго радкі: «Такія вершы можа пісаць толькі сапраўдны вясковы інтэлігент, — сказаў ён і з прыцмокам працытаваў: *«Крывяню сабе вусны калінавай ягадай спелаю».* — Як ярка! Хораша! Зрокава!». А Іван Навуменка, з якім Васілю выпала сядзець за адным сталом у іслачскай сталоўцы, даведаўшыся, што той вучыўся ў інстытуце замежных моў, з першага дня не прамінуў выпрабаваць яго веды. Адчуўшы ў сваім суразмоўніку моцнага знаўцу некалькіх замежных моў, бо і сам ведаў іх, Іван Навуменка звяртаўся да яго то па-нямецку, то па-англійску, то па-французску, і Васіль Гадулька з прыхаванай усмешкай і непрытоенай

унутранай напружанасцю з кожным днём усё вышэй падрастаў у вачах мэтра: паэт бездакорна, дасціпна, з годнасцю, але трохі сарамліва-няўпэўнена падтрымліваў гаворку на той мове, на якой яна пачыналася, і аднаго разу жартам выказаў занепакоенасць, што ў такіх умовах можа развучыцца размаўляць па-беларуску. Урэшце Іван Навуменка перакапаўся: яшчэ невядомы таленавіты творца з вёскі Федзькавічы, што на Жабінкаўшчыне, часу ў інстытуце дарма не губляў, бо грунтоўна авалодаў нямецкай мовай і нават яе двума дыялектамі і свабодна мог гаварыць на іх, а пры вывучэнні англійскай, французскай і італьянскай моў карыстаўся не толькі расейскімі, але і нямецкімі падручнікамі. Прычым большую перавагу аддаваў апошнім. Аднойчы нават спрабаваў перакладаць Гейнэ. Прызнаны пісьменнік зразумеў, што сціплы і сарамлівы хлапец з правінцыі мае за душой незвычайны скарб, і прапанаваў яму паступаць на дзённае аддзяленне філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, паабяцаўшы яму самую гарачую асабістую падтрымку. Той напачатку спаслаўся на свой узрост, але, калі Іван Навуменка згадаў жанчыну, якая скончыла філфак за год да выхаду на пенсію, даў згоду і акрылены новай перспектывай, вярнуўшыся дамоў, да канца зімы засеў за школьныя падручнікі.

Ён жыў разам з маці і быў вольны ў сваім выбары. Сталіца магла адкрыць яму шырокі шлях для рэалізацыі вельмі багатага патэнцыялу, які ў сілу абставін, надзвычай сціплага характару і беднасці, у правінцыі паэт не змог праявіць і на пяць працэнтаў.

Здаецца, Васіль Быкаў казаў, што ва ўмовах правінцыі ў творцы ёсць тры шляхі: вырвацца з яе атмасферы і рэалізавацца ў сталіцы альбо змірыцца з роляй серадняка і публікацыямі ў рэспубліканскім друку час ад часу напамінаць пра сябе, ці проста паддацца цячэнню і спіцца, што ў літаратурным жыцці нярэдка здараецца.

Васіль Гадулька не абраў ніводнага з гэтых шляхоў. Пачаўшы ўсур'ёз пісаць у сталыя гады, ён жыў паэзіяй як паветрам, не выстаўляючы сваіх вершаў напаказ, таму абраў свой адметны шлях.

Мінуў 1986 год, а 1987-ы пачаўся з умяшання ў жыццё паэта ідэалагічных выпрамляльнікаў мазгавых звілін, якія выклікалі яго на суразмову ў Брэст з той нагоды, што ў ліку 27 удзельнікаў літаратурнай нарады ў «Іслачы», якія паставілі свае подпісы пад лістом у абарону беларускай мовы, накіраваным М. С. Гарбачову, стаяў і подпіс Васіля Гадулькі. Гэты год тым не менш абяцаў многае і мог стаць пераломным у яго жыцці: вершы паэта з'явіліся ў рэспубліканскім друку, да таго ж адразу ў перакладзе на рускую мову ў часопісе «Нёман». Аднак пералому не было наканавана адбыцца: іранічна спаслаўшыся на тое, што і інстытуцкіх ведаў яму няма дзе прымяніць, апроч курсавых і дыпломных работ, якія ён ахвотна і на высокім узроўні пісаў за студэнтаў-завочнікаў ледзь не з усёй Берасцейшчыны альбо перакладаў за іх замежныя тэксты, і што паэтаў у Менску стае і без яго, Васіль Гадулька з наступленнем вясны і неадкладных сялянскіх клопатаў перадумаў паступаць на філфак. Але галоўнай прычынай перамены яго намераў было слабае здароўе маці. Праз тры гады, разбітая паралюшам, на паўгода літаральна прыкаваўшы сына да свайго ложка, бо мела патрэбу ў штодзённым і штоночным доглядзе, яна памрэ, і Васіль Гадулька пахавае яе на вясковых могілках побач з бацькам, прадбачліва пакінуўшы паміж іхнімі магіламі месца для сябе.

Нічога не патрабуючы ад жыцця, замкнуўшыся ў сабе, Васіль Гадулька, здавалася, зноў, як пасля некалькіх асабістых узрушэнняў, перажытых у канцы 60-х гадоў, аддаў сябе цячэнню. Тады, амаль 20 гадоў назад, ён быў яшчэ зусім малады, і то не вельмі спрабаваў супрацiўляцца жорсткім націскам лёсу, якія ішлі адзін за адным і бязлітасна выбівалі глебу з-пад ног.

З падлеткавага ўзросту марачы пра інстытут замежных моў, бо яшчэ ў Рагазнянскай сямігодцы, якую скончыў на «выдатна», праявіў вялікую цягу да мовазнаўства, на апошнім курсе ён вымушаны перарваць вучобу. Нагодай для гэтага стаў небяскрыўдны для таго часу інцыдэнт: праходзячы практыку, Васіль заседзеўся ў рэстаране з грамадзянінам тадышняй Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, які запрасіў маладога перакладчыка на вячэру ў знак павагі за дасканалае веданне ім яго роднай мовы. Праз некаторы час Васіль Гадулька аднавіўся ў сваіх правах на педпатоку інстытута, але неўзабаве зноў перарваў вучобу — цяпер ужо з уласнай волі. Атрымаўшы даведку аб незакончанай вышэйшай адукацыі, Васіль Гадулька адслужыў у войску і, вярнуўшыся ў родныя Федзькавічы, уладкаваўся настаўнікам нямецкай мовы ў Азяцкую сярэднюю школу, аднак доўга ў ёй не затрымаўся, глыбока расчараваўшыся ў школьнай працы і сваіх настаўніцкіх здольнасцях і мажлівасцях, тым болей, як гаварыў сам, не выдаўся ростам і амаль не адрозніваўся ад большасці сваіх вучняў. Але не толькі гэта вызначыла яго жыццёвы выбар. Думаецца, што тут галоўную ролю сыграў унутраны надлом, які пачаўся з развітання з інстытутам і набыў новую глыбіню, калі на ягоных вачах пад коламі трактара загінуў брат Пятро, смерць якога ён вельмі доўга і балюча перажываў. Амаль адначасовае з гэтай трагічнай падзеяй адчужэнне ад яго каханай зрабіла жыццё Васіля Гадулькі яшчэ невыносней. Ён поўнасцю замкнуўся ў сабе. Яго надломаную, лёгка ранімую і далікатную душу ратавалі вершы, але да 1986 года ён нікому іх не паказваў і нават не спрабаваў надрукаваць. Такім быў яго шлях. Таму невыпадкова з'явіўся верш «Да крытыкаў», у якім паэт пісаў:

Дзівосных песень адгалоскі
да нашых дзён дайшлі здалёк.
А кветкі згортваюць пялёсткі,
калі іх атуляе змрок.

Не дагаджайце. Патрабуйце,
каб песня песняю была...
А лепей — самі паспрабуйце
вырошчваць кветкі без святла.

Захаваўся ліст у рэдакцыю, знойдзены ў архіве паэта. *«Дасылаю тры вершы,* — паведамляе ён, — *у тым ліку вольны пераклад з ранняй лірыкі Ш. Пецёфі. На дакладнасць не разлічваю, бо ён зроблены з нямецкага перакладу Мартына Рэманэ (венгерскай мовы я не ведаю). Мэта майго звароту да вас: даведацца, ці варта мне надалей практыкавацца ў напісанні вершаў, хоць маю іх вялікае мноства і нават больш удалых, на мой погляд, на розныя тэмы, аднак амаль усе на рускай мове».*

У архіве паэта знайшоўся яшчэ адзін пераклад — з рускай мовы: «Непрыгожая дзяўчынка» Мікалая Забалоцкага. Узнаўленне вершаў Ш. Пецёфі і М. Забалоцкага па-беларуску сведчыць пра несумненныя здольнасці Васіля Гадулькі як перакладчыка. На жаль, яны не былі рэалізаваны і на сотую долю. Паэт спрабаваў пісаць вершы і на замежных мовах: адзін ён пакінуў пасля сябе на нямецкай, другі — на англійскай. Па прынцыпе тандэма мы з ім збіраліся перакладаць Эдгара По, але гэтая задума засталася нязддзейсненай...

1986 год вярнуў Васілю крылы, але ненадоўга. Адмовіўшыся ад прапановы Івана Навуменкі, заклапочаны хваробай маці, Васіль Гадулька зноў трапіў у паласу расчараванняў, якая скончылася поўным знішчэннем усяго напісанага ў агні.

Урэшце паэт адумаўся і па памяці аднавіў усе спаленыя вершы, але з-за сціпласці і поўнай адсутнасці самалюбства, а гэтая якасць для творцы многае значыць, па-ранейшаму падкрэсліваў, што ён іх цэніць невысока і не збіраецца друкаваць. Але, хоць сам Васіль Гадулька прынцыпова, верны сваёй пазіцыі, нікуды вершаў не адсылаў, яны друкаваліся. Іх з яго маўклівай згоды пасылаў я альбо Алесь Каско.

Паказаць ці прачытаць новы твор Васіль Гадулька мог толькі тады, калі ўсё да драбніц вывяраў у ім, аднак часта і пасля апублікавання правіў асобныя радкі.

У 1992 годзе пасля маіх неаднаразовых прапаноў і просьбаў Васіль Гадулька нарэшце падрыхтаваў рукапіс, які склалі найбольш дасканалыя, на яго погляд, вершы і байкі. Каля ста вершаў на беларускай і рускай мовах, вянок санетаў, чатыры паэмы паэт пакінуў у архіве, палічыўшы іх нявартымі ўвагі чытача, таму што быў незвычайна патрабавальны да сябе.

У тым жа годзе, дакладней напрыканцы яго, да Васіля Гадулькі звярнуліся мясцовыя бібліятэкары з просьбай напісаць для іх сваю аўтабіяграфію. Васіль напісаў яе, але не ад першай, а — зноў жа па глыбокай сціпласці, якая, трэба думаць, сыграла адмоўную ролю ў жыцці гэтага таленавіцейшага паэта — трэцяй асобы, закончыўшы свой жыццяпіс, як ён пасля з усмешкай расказваў, не ведаючы, чым яго завяршыць, жартаўліва-іранічна, што сталася прарочым.

*«Гадулька Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў беднай сялянскай сям'і,* — пісаў паэт, выконваючы просьбу бібліятэкараў. *Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, але на апошнім курсе, расчараваны ў прафесіі настаўніка, кінуў яго і працаваў доўгі час на будоўлі, потым — паляводам у мясцовым саўгасе. Вершы на расейскай мове пачаў пісаць яшчэ ў школе. Друкавацца не спрабаваў, лічачы сваё захапленне паэзіяй, як пазней замежнымі мовамі — нямецкай, англійскай, італьянскай, французскай і польскай — толькі асабістым сваім хобі. Прыкладна з 1985 года пачаў пісаць па-беларуску. Вершы друкаваліся ў раённай газеце «Сельская праўда», абласной — «Заря», у зборніках «Дзень паэзіі» і ў штотыднёвіку «ЛіМ». Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года, у страшэннай галечы і без сродкаў для існа-*

*вання, незразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна».*

Пасля свайго *іранічнага* ***прароцтва*** Васіль Гадулька даволі шмат пісаў, хаця зіма 1992 года прынесла-такі яму непрыемнасць: ён трапіў у бальніцу з моцным абмаражэннем рук, якое прывяло да частковай страты працаздольнасці.

Якая іронія лёсу і збег абставін для таленту, вымушанага здабываць сродкі для існавання ў ролі рознарабочага!

*«За тую драбязу, якую плацяць,* — пісаў Васіль Гадулька ў неадасланым лісце ў Гародню ў 1987 годзе, — *пражыць становіцца зусім немагчыма. Трэба нешта мяняць у асабістым жыцці, а ў мяне такі характар, што без штуршка збоку я на гэта ніколі не наважуся».*

Паляводства і да таго аплачвалася мізэрна, цяпер жа, калі колькасць выхада-дзён на працу з-за абмарожаных рук скарацілася да мінімуму, яно ледзь давала магчымасць паэту зводзіць канцы з канцамі. У выніку рэзка пагоршылася яго здароўе, хаця на гэта ён не часта скардзіўся. Заўсёды разлічваючы толькі на сябе, па дапамогу ён ні да кога не звяртаўся і мужна, без скаргаў на лёс, хаця часам сумна казаў, што яго жыццё — адзін суцэльны няшанц, як мог, колькі ставала сілы, пераносіў усе нягоды, у тым ліку і яшчэ адно няўдалае каханне, якое было самым пакутным.

Свой няшанц, безумоўна, паэт звязваў з характарам. Аднак яго жыццёвая неўладкаванасць не магла стаць вынікам толькі яго непрацiўленчага складу душы. Яго няшанц у большай меры бачыцца фокуснай праекцыяй жыццёвых пертурбацый цэлага пакалення, асабліва яго вясковай часткі, дзяцінства якога скончылася разам з хрушчоўскай «адлігай», а юнацтва выпала на пару брэжнеўскіх «замаразкаў».

*«И бросил в воду пистолет, и понял он, что беззащитен, каким и должен быть поэт»,* — пісаў Ігар Шклярэўскі. Гэтыя словы стасуюцца і з характарам Васіля Гадулькі, і з яго жыццёвай і творчай пазіцыяй. Такім безабаронным

людзям, як ён, было наканавана стаць «казламі адпушчэння» грамадства, якія сфакусіравалі ў сабе вышыню памкненняў, выдаткі і няўдачы цэлага пакалення, цаной уласнай неўладкаванасці замольваючы яго грахі і пакутуючы за яго паражэнні, падманутыя надзеі і апаганеныя ідэалы.

Напярэдадні 1993 года Васіль Гадулька звяртаўся да сваёй каханай у неадасланай навагодняй паштоўцы — нібы развітваючыся: *«...зычу, каб у наступным годзе шчаслівым чынам не ажыццявілася ніводнае з тых тваіх жаданняў, ажыццяўленне якіх пайшло б табе на шкоду, але каб абавязкова ажыццявіліся тыя, якія прынеслі б табе карысць, пачуццё задаволенасці і шчасця. Зычу табе, каб маё нераздзеленае і непатрабавальнае, але заўсёды шчырае і вернае каханне да цябе, магло паслужыць табе апірышчам у цяжкую хвіліну. Няхай беражэ цябе Бог».*

Свет адмовіў паэту ў каханні.
Проста так, без усякіх падстаў.
Той пакрыўдзіўся, засумаваў,
захварэў і памёр на світанні.

Але вершы, якія ён склаў,
мар ягоных чароўныя здані,
летуценні свае, спадзяванні
у магілу з сабой не забраў.

Нехта іх у сталіцу паслаў.
Неўзабаве ў прыгожым выданні
яго шчырага сэрца прызнанні
цэлы свет з заміраннем чытаў.
Свет адмовіў паэту ў каханні,
а самога ўсё роўна прызнаў.

Так пісаў Васіль Гадулька ў адным з санетаў, які нікому не паказваў, у канцы 80-х гадоў. Паэты аказваюцца добрымі прарокамі калі не для іншых, то для сябе. Самае дзіўнае, што гэтыя радкі аказаліся для Васіля Гадулькі прарочымі да драбніц. Праз паўгода пасля напісання аўтабіяграфіі, якая цяпер ужо не ўспрымаецца як

жарт, бо ніхто са смерцю не жартуе, на світанні 15 чэрвеня 1993 года паэт раптоўна памёр.

Відаць, ён прадчуваў гэта, бо за тры дні да смерці прынёс мне тры вершы, прысвечаныя каханай. Ёй, чыё імя паэт хаваў за ініцыяламі А.У.П., ён прысвяціў некалькі дзесяткаў вершаў, у тым ліку адзін англамоўны, які хачу прывесці ў сваім перакладзе на беларускую мову:

> Толькі адно пытанне даймае мяне днём і ноччу: як паяднаць змрок і святло? Як паяднаць святло тваіх усмешлівых вачэй, якое праменіцца з іх і ніколі не падманвае, са змрокам, што груваcціцца вакол мяне і над маёй самотай, маім сэрцам, маім лёсам і маім адзіным каханнем?

Апошні верш, прысвечаны А.У.П., Васіль Гадулька назваў «Развітанне». Гэты верш па волі лёсу стаў развітальным і для каханай, і для ўсіх нас. Але з намі назаўсёды засталася яго паэзія, пазначаная шчырым пачуццём і самай высокай пробай. З намі засталіся яго натхнёныя радкі, якія нязменна будуць прыводзіць чытача на маўклівую сустрэчу з Паэтам.



# ПРЫЧАСЦЕ

*Васілю Гадульку*

Бягуць машыны па шашы.
Сабака вые каля плота.
А ён сядзіць.
На дне душы
гарчыць цыкутаю самота.

Адзін,
пакінуты няўзнак
сябрамі, роднымі, каханай,
сядзіць, нібы пустэльнік-рак,
самім сабой абрабаваны.

Надзейна спалены масты.
Апошні ў памяці дыміцца.
А ён сядзіць, нібы застыў
і прыкіпеў да палавіцы.

У позірку мільгнуў наіў,
але з прасветленай душою
устаў і да краёў наліў
у келіх жоўтага напою.

Устаў і нерухома стаў
і з ціхай думкаю пра шчасце
ён пачастунак свой прыняў,
нібы царкоўнае прычасце.

Ён выпіў келіх свой нагбом.
Ужо на золак стала брацца.
І, як дзіця, забыўся сном.
Заснуў,
каб больш не прачынацца.

# РАЗВІТАННЕ

**(паэма-дыялог)**

Доля горкай віны
ёсць у тым і твая, —
што за грэх твой зямны
пакараны быў я.

*Васіль Гадулька*

Умолк простивший мне грехи.

*Ганна Ахматава*

## 1

*У вясковым двары паміж клёнам і чаромхай, ахутанымі летнімі вечаровымі прыцемкамі, стаіць задуменны паэт. Да яго падыходзіць гожая маладая жанчына, якую ён бязмежна кахае, але ведае, што тыдзень назад яна зноў яму здрадзіла.*

— Я ведала,
што гэты дзень надыдзе...
— І я таксама ведаў,
але мне
было лягчэй даверыцца мане,
чым прывыкаць да праўды цэлы тыдзень...
— І ты прывык?
— Ты ведаеш адказ,
таму маўчы, бо давядзеш да згубы...
— О, Божа мой!
Не трэба так, мой любы!
Кахай мяне, нібыта ў першы раз.
— Тваё «кахай», бы лісце з дрэў асенніх,
злятае з вуснаў здрадлівых тваіх.
— Мой любы! Не кажы мне слоў такіх.
Хіба не з іх ты піў салодкія імгненні?
— Усё ў былым, якое не належыць
нікому з нас, і раз мой лёс такі,
цябе мне вінаваціць не з рукі —
сабе сама ты вызначаеш межы.
— Не трэба так, мой любы, мой каханы!
Жанчына без мужчыны — пустацвет.
Я не хачу, каб вольным стаў мой свет,
бо ён табой навек абмежаваны.

— О, любая, цытуй мяне другому,
цябе я ўжо, здаецца, не люблю.
Таму і вершы ўсе свае спалю —
яны больш не патрэбныя нікому.
Я імі жыў, пакуль я жыў табою,
і быў шчаслівы нават у журбе.
Я імі абавязаны табе,
як поле сонцу абавязана вясною,
але цяпер, калі ты хочаш волі,
калі ты прагнеш новай вышыні,
я з імі памяць пра цябе ў агні
спалю,
каб больш не ўспамінаць ніколі.

## 2

*У цёпла напалсную хату заходзіць каханая паэта, які сядзіць ля грубкі і кідае ў агонь апошнія аркушы, спісаныя акуратным вучнёўскім почыркам. На падлозе раскідана пажоўклае кляновае лісце.*

— О, Божа мой!
— Я, можа, недарэчы?..
— Наадварот.
Заходзь, калі прыйшла.
Я памяць пра цябе спаліў датла,
але ўсё роўна марыў пра сустрэчу.
— Каханы мой, я ведала пра гэта,
хоць ты праходзіў міма, як нямы.
— Я жыў, нібы за кратамі турмы,
у шклянцы ісціну шукаючы ўсё лета.
На хмельным дне адны расчараванні
знаходзіў я, і стала ясна мне:
яе няма ні ў вершах, ні ў віне.
— Але ж ты мог знайсці яе ў каханні.
— Лічы, знайшоў.
Душа перагарэла.
Застаўся толькі мёртвы прысак там.
Яна цяпер,
бы зруйнаваны храм,
які ты ўратаваць не захацела.

Не ведаю,
як жыць з такой душою,
а на парозе лютая зіма...
Ні радасці, ні смутку ў ёй няма.
Зрабілася яна халоднай і пустою.
— Мой любы, я цябе не разумею.
Ты пра сябе мне кажаш так знарок.
— Маю душу запоўніў чорны змрок
І заглушыў апошнюю надзею.
Яна натхнялася адной табою,
але парвалася ў ёй спеўная струна...
— Я прызнаю... Ляжыць на мне віна...
— О, не, ты вольная.
І Бог табе суддзёю.
— Лепш ты судзі.
— Правоў такіх не маю.
— Мой любы, для мяне ты Бог святы.
— Дарэмна Бога ўспамінаеш ты.
— Не, ты мой Бог, бо я цябе кахаю.
— А я ўжо не кахаю.
Спапялела
каханне разам з вершамі ў агні
ў перадзімовай мёртвай цішыні,
і аддзялілася душа ад цела.
Я знаю, як шукаць мне суцяшэння,
але ні ў чым цябе я не віню...
— Сябе самога ты аддаў агню...

*Паэт падымае з падлогі недагарэлы аркуш паперы і чытае:*

— «...а я табе кажу: "Да пабачэння".
Ідзі. Шукай уцех. За слодыч іх плаці
пакутамі, пакуль не надакучыць.
Сустрэнемся мы ў іншым тым жыцці,
дзе нас з табой ніштото ўжо не разлучыць»*.

## 3

*Паэт ляжыць на бальнічным ложку з перавязанымі бінтам рукамі. На краёчку ложка сядзіць яго*

---

* Тут і ў трэцяй частцы цытуюцца радкі з архіва заўчасна памерлага паэта Васіля Гадулькі.

*засмучаная каханая. За акном вые халодны зімовы вецер.*

— Цябе непадалёк ад маёй хаты
на ростанях апоўначы знайшлі
здубелага на выстылай зямлі.
Каб не суседзі,
небам быў бы ўзяты...
— Што хочаш, мне кажы, але без шкадавання.
Я чулых слоў тваіх не заслужыў,
бо глупства гэтае на зло табе зрабіў,
каб не было ніколі ў нас спаткання.
— Паэзію — агню, сябе — марозу?!
— Хіба ты здагадацца не магла:
З памкненнямі да вечнага святла
я перайшоў з паэзіі на прозу,
якую мне працей не на паперы
пісаць,
а ў варыянце чарнавым:
расплачвацца за ўсё жыццём сваім,
калі вакол няма ні вернасці, ні веры.
— Але казалі мне, што перад гэтым
ты скарб свой спалены за некалькі начэй
па памяці ўзнавіў...

(*з іранічнай усмешкай*)

— Бо цепліцца яшчэ
надзея пасмяротна стаць паэтам.
Мой скарб жывым патрэбны,
а не спрату.
Збяднеў бы свет,
калі б у небыццё
забраў бы я сваё святое пачуццё,
і Бог мяне судзіў бы за растрату.
Я без таго растраціў надта многа.
І сотай долі не зрабіў, што мог.
Рахунак строгі мой: з усіх дарог
беспамылковая адна — да Бога.
— Ад жарцікаў тваіх марозам вее...
— Бо целам і душой я абярнуўся ў лёд.
Яшчэ не парваўся мой палёт,
але ніхто мяне не адагрэе.
У гэтым жорсткім раўнадушным свеце
найбольш усе занятыя сваім.

І нават сонца яснае не ўсім
аднолькава з нябёс высокіх свеціць.
— Я ўся ў былым.
Кахай мяне былую,
а я цябе кахаць такім, як ёсць, магу.
— Кахаю я цяпер сваю тугу
і па былым ужо не настальгую.
Але, каб не разбурваць спадзяваўняў
на тое, што знайсці там можна след,
я падару табе на развітанне
пяць год назад напісаны санет.

*Падае ёй аркуш з санетам і слухае, як з любых вуснаў злятаюць яго іранічныя радкі:*

«Свет адмовіў паэту ў каханні.
Проста так, без усякіх падстаў.
Той пакрыўдзіўся, засумаваў,
захварэў і памёр на світанні.

Але вершы, якія ён склаў,
мар ягоных чароўныя здані,
летуценні свае, спадзяванні
у магілу з сабой не забраў.

Нехта іх у сталіцу паслаў.
Неўзабаве ў прыгожым выданні
яго шчырага сэрца прызнанні
цэлы свет з заміраннем чытаў.
Свет адмовіў паэту ў каханні,
а самога ўсё роўна прызнаў».

— Санет мой — жарт,
але мне дастаткова,
што ў светлых згадках ёсць тваё цяпло.
Няма існей таго, што аджыло.
Няма жывей таго, што стала словам.

## 4

*З хаты нясуць у труне мёртвага паэта. У першых шэрагах нешматлікай жалобнай працэсіі ідзе за труной яго заплаканая каханая. Маркотна шапаціць на дрэвах яркая зялёная лістота.*

— Анёл мой светлы!
У радках санета
усё ты загадзя прадбачыў да драбніц.
Прамень світальны ведае пра гэта —
ён кропляй сонца ўпаў на дно тваіх вачніц.
На досвітку душа твая ўзляцела
у райскі сад і разарвала круг
надзей і мрой няспраўджаных,
а з цела
у друз жыцця спаў заіржаўлены ланцуг
тваіх зямных пакут —
нячутна, безбалесна.
Ён у нагах тваіх зняможаных ляжыць —
рассыпаны на звёны...
О, як цесна
мне без цябе на гэтым свеце жыць...

*Роўна праз год цёплым чэрвеньскім вечарам у пустую паэтаву хату ў чорнай хусцінцы заходзіць яго засмучаная каханая, нетаропка ідзе да стала, на якім ляжыць аркуш, спісаны роўным вучнёўскім почыркам. Яна бярэ яго і напаўголаса чытае:*

Мяне няма,
але я ёсць — адсутны
на час, які вядомы толькі мне.
Цяпер я пэўны:
ісціна і сутнасць —
у немаце, як некалі ў віне,
якое я любіў,
і ў тым прызнацца,
нібыта зноў вярнуцца на зямлю.
Ды не хачу я на зямлю вяртацца —
я слодыч іншую цяпер люблю.
Яна, як і віно, але без хмелю,
глытка яе стае на сто вякоў,
хаця насуперак зямному зеллю
яна не грэе, а халодзіць кроў.
А кроў мая — ужо не кроў,
а сокі
дрэў, зёлак, траў, каравае зямлі,
бо наступіў мой поўдзень найвысокі —

мой дух анёлы ў неба паднялі.
І я лячу над роднаю зямлёю,
над роднай хатай зоркаю свячу
і разумею ўсіх, хто быў са мною,
але да іх вяртацца не хачу.
І ты,
каханая,
не хмур чало,
казаў,
кажу
і паўтару нанова:
няма існей таго, што аджыло,
няма жывей таго, што стала словам.

# СПОВЕДЗЬ САМОТНІКА

**(вершанемы)**

*S.m.*

***Рукапіс,***
***знойдзены на сметніку***

*...Надыдзе дзень,*
*калі я скончу свой верш.*
*Усё ў ім будзе строга і прыгожа —*
*ні слоў, ні гукаў.*
*Таму сачыце,*
*калі ў вашы рукі*
*выпадкова трапіць*
*чысты, няспісаны аркуш,*
*можа, гэта і ёсць*
*мой самы завершаны верш!*
(Здраўка Кісёў)

*Няма існей таго, што аджыло,*
*Няма жывей таго, што стала словам.*
(Самацытата)

### Знаходка

Аднойчы ў вёсцы, адлеглай на 5 кіламетраў ад мястэчка, дзе я жыву, непадалёку ад аўтобуснага прыпынку, на сметніку, я знайшоў дзіўны скрутак паперы, які аказаўся рукапісам з дзесяці сшытых зялёнымі ніткамі і пранумараваных аркушаў.

Я не звярнуў бы на гэтыя паперы ўвагі, каб у вочы не кінуўся першы аркуш. На ім зверху і пасярэдзіне акуратным вучнёўскім почыркам было напісана:

СПОВЕДЗЬ САМОТНІКА

(вершанемы)

Далей я прачытаў эпіграф ці імя:

S.m.

Наступныя восем аркушаў былі... чыстыя, некранутыя, а на дзесятым таксама пасярэдзіне тая ж рука цесна і ўборыста вывела:

ЗМЕСТ

1. ВЕТРУ, які будзе чытаць і перачытваць мае радкі.

2. ПАЭТУ, які выпадкова знойдзе мой рукапіс і перакладзе яго з мовы ветру на мову людзей.

3. САБЕ, якога не будзе.

4. БАЦЬКАМ, з якімі ўжо ніколі не расстануся.

5. СВАЯКАМ, якія не разумелі мяне, але зразумеюць.

6. СЯБРАМ, з якімі яшчэ сустрэнуся — назаўжды.

7. КАХАНАЙ, якая не кахала мяне, але пакахае.

8. ЧЫТАЧАМ, якія нарэшце прачытаюць маю споведзь.

ЭПІЛОГ

Дзіўны рукапіс завяршаў не менш дзіўны подпіс:

*знак цяльца*
*і даты:*
*17.V*
*15.VI*

Правы ніжні ражок дзесятага аркуша, каля дат, дзе, відаць, значыліся гады ці год і, магчыма, адрас, быў адарваны.

Дома я яшчэ раз перачытаў рукапіс, пацiснуў плячыма на дзесятым аркушы яго зместу, падзівіўшыся арыгінальнасці задумы аўтара, пашкадаваў, што ён не ажыццявіў яе і схаваўся за крыптаграму S.m., а пасля, зразумеўшы, што за гэтымі літарамі стаіць лацінскае Scripta manent (напісанае застаецца), пазначыў:

РУКАПІС, ЗНОЙДЗЕНЫ НА СМЕТНІКУ

Пасля ў якасці працягу эпіграфа дапісаў некалькі радкоў балгарына Здраўкі Кісёва, дадаў самацытату і, палічыўшы, што гэта і ёсць дакладны пераклад гэтых вершанем — «з мовы ветру на мову людзей», паклаў знойдзеныя лісты ў архіў.

Амаль праз чатыры гады пасля гэтай знаходкі, палюбаваўшыся халодным сакавіцкім вечарам на камету, якая трапляе на вочы людзям раз у тысячагоддзе і невядома якім чынам уплывае на іх жыццё і лёсы, адзначыўшы, што апошні тыдзень яна прыкметна паднялася ўверх ад сузор'я Касіяпеі, я зноў згадаў пра гэты рукапіс, дакладней пра сёмы пункт яго зместу і міжволі пасміхнуўся: а ці не час прапанаваць гэты твор чытачам, пра якіх невядомы аўтар думаў у восьмым пункце?

Дзіўны рукапіс зноў лёг на мой стол, і... не было мяжы майму здзіўленню, калі я, адкрыўшы яго другую старонку, убачыў на ёй слаба акрэсленае, ледзь чытэльнае:

ВЕТРУ, які будзе чытаць і перачытваць мае радкі.

А далей ішлі вершаваныя, уборыста напісаныя радкі. Яны ледзь акрэсліліся і на астатніх аркушах.

Прыблізна так акрэсліваюцца словы, напісаныя малаком, пад уздзеяннем лямпавага цяпла альбо часу, падумаў я, і адчуў, што сэрца прыбавіла ходу і ледзьве не вырывалася з грудзей ад змешанага пачуцця здзіўлення і радасці.

У дзівосы я не веру, хаця дапускаю іх, таму, каб супакоіцца, вырашыў: лісты, магчыма, дзеля жарту былі напісаны малаком і на іх, пажаўцелых ад часу, пачалі праступаць літары.

Я хуценька ўключыў настольную лямпу, прыгнуў яе «галаву» нізка да стала і пад яе цёплым святлом стаў няспешна перагортваць старонкі знойдзенага рукапісу. Неўзабаве на ўсіх аркушах яскрава вырысаваліся ўборыстыя вершаваныя радкі з тымі ж загалоўкамі, што значыліся ў змесце.

У выніку я і аказаўся тым паэтам, які пераклаў гэты рукапіс «з мовы ветру на мову лю-

дзей», а ты, чытач, будзеш адным з тых, пра каго думаў невядомы (на жаль, невядомы) аўтар.

*P. S. Шаноўны чытач, калі я цябе заінтрыгаваў, то спадзяюся, дарэшты не расчарую, прызнаўшыся, што гэта звычайная містыфікацыя, хоць дапускаю, што такое магло быць насамрэч. Вершы напісаны па матывах жыцця рэальнага чалавека. Гэта своеасаблівы працяг маёй паэмы «РАЗВІТАННЕ»,* ***прысвечанай паэту Васілю Гадульку, які заўчасна пайшоў з жыцця.**** 

### 1. ВЕТРУ, які будзе чытаць і перачытваць мае радкі

Найадданейшы служка Бога,
сам стыхія, сябрук стыхій,
у цябе я прашу нямнога:
нада мной не лютуй, не вый.

Спадабалася мне твая мова,
у якой дні-вякі шумяць.
Яе ўмеюць у простае слова
толькі творцы перакладаць.

Я табе аддаю ў ахвяру
плён бяссонных начэй і мрой,
нечытаны нікім,
і мару
зразуметым стаць хоць табой.

Мае вершы не маюць тэмы,
словаў іх не відаць, не чуваць.
Вось пагэтаму «вершанемы»
захацелася іх назваць.

Не скуголь
і не плач нада мною
ні на золках, ні па начах.

---

* Незадоўга да самагубства Васіль Сахарчук выкасаваў з паэмы вылучаную цёмным шрыфтам фразу, тым самым як бы факусіруючы сюжэт на сваім уласным трагічным лёсе.

Лепей лісцем засып і травою
чорны груд, дзе ляжыць мой прах.

Перагортвай лісты,
бясконца
перачытвай мае радкі,
а пасля падымі да сонца
альбо проста парві ў шматкі.

Буду рады і гэткаму лёсу
і глыбока схаваю дакор...
Абсыпай лугавыя росы,
разгамоньвай за вёскай бор.

## 2. ПАЭТУ,
## які выпадкова знойдзе мой рукапіс і перакладзе яго з мовы ветру на мову людзей

Ветру ветрава,
ў ча́савым дыме
назусім не знікне мой след.
Можа, рукапіс гэты падыме
незнаёмец ці сябра-паэт.

Не астынь да яго,
мой руплівец,
блаславёны будзь,
дабрадзей!
Веру,
вершы мае ты асіліш
з мовы ветру на мову людзей.

## 3. САБЕ,
## якога не будзе

Мяне няма.
Каго я тым здзіўлю,
калі навек касцьмі залягу ў гліну?
І я прыйшоў на грэшную зямлю,
каб грэх прымножыць
і яе пакінуць.

Адзін, як перст:
ні сына, ні дачкі.
Нат у нашчадках я не паўтарыўся.
Ці варт было цягнуць мне воз такі,
каб змарнаваць жыццё
і растварыцца ў высях?

Адна суцеха,
што такіх, як я,
сярод людзей-пакутнікаў нямнога.
Адсюль і філасофія мая:
пад д'яблам жыў,
ды адышоў да Бога.

## 4. БАЦЬКАМ,
## з якімі ўжо ніколі не расстануся

Наракаць на жыццё маё сэрца не ўмела,
я яго суцяшаў
колькі мелася сіл,
таму рэдка хадзіў да крыжоў пачарнелых
і ні разу не плакаў ля вашых магіл.

Але слёзы да горла не раз падступалі,
і не мог я ад іх утрымацца,
калі
галубок і галубка ў наш двор прыляталі
і ваду з маёй цёплай далоні пілі.

Я карміў іх з рукі ячнай кашай і хлебам,
быццам іх прыручыць да сябе захацеў,
а пасля ім услед у бяздоннае неба
доўга-доўга з трывожнаю думкай глядзеў.

Так было кожны дзень,
і лагоднелі вочы
пры шчаслівым вяртанні маіх галубоў,
покуль іх не заўважыў у небе аднойчы
над нямымі крыжамі вясковых кладоў.

З таго часу я стаў без журбы і трывогі
пазіраць на клады,

і выходзіць часцей
на ўтравелую шыр векавое дарогі,
і шукаць у нябёсах чаканых гасцей.

І калі зразумеў,
што да роднае хаты
мне звароту няма
і не будзе,
тады
за аблокі ўзляцеў,
быццам голуб крылаты,
і застаўся ля вас назаўжды.

### 5. СВАЯКАМ,
### якія не разумелі мяне, але зразумеюць

Я рос, як крапіва у агародзе,
бы васілёк у моры жытніх ніў,
і, як ніхто ў збяднелым нашым родзе,
з малых гадоў самоту палюбіў.

Цішэй вады, ніжэй травы
парою
я пачуваў сябе паміж сяброў,
і з добрай ласкі нечае за тое
патрапіў у кагорту дзівакоў.

Так вось і жыў.
Але не даў і знаку,
што і ад вас я гэта чуў,
калі
прывёў у двор бяздомнага сабаку
пасля таго, як брата правялі
на могілкі маўклівай талакою
ў апошні шлях,
і я сказаў,
што й звер
усёй сваёй самотнаю душою
адчуў наш боль
і праявіў давер.

Смяяліся...
Але і я не плакаў,

і не пачуў ніхто бацькоўскіх слоў:
— Дай Бог, каб кожны з вас, як ён з сабакам,
паразуменне поўнае знайшоў.

Цяпер жа, калі вечнае імгненне
світанкам вечным мой спыніла час,
жыву спадзевам,
што паразуменне,
як той сабака,
аб'яднае нас.

## 6. СЯБРАМ,
## з якімі яшчэ сустрэнуся — назаўжды

На пальцах аднае рукі
я палічу вас, сябрукі.

За тое, што вы ўсё ж былі,
паклон вам нізкі да зямлі.

У радасны і горкі час
заўжды быў побач кожны з вас.

І я цягнуў жыццё, бы воз,
без нараканняў на свой лёс.

Я і цяпер бязмежна рад,
што кожны з вас мне быў як брат.

І нават больш —
такіх сяброў
хапіла б мне на сто гадоў.

Ды знічка на краі сяла
аднойчы знак мне падала.

І я адчуў і зразумеў,
хоць шмат надзей і планаў меў:

у іншы свет навек пара
сыходзіць з роднага двара.

На золку чэрвеньскага дня
мяне акрыла цішыня.

Дык не крыўдуйце на мяне,
і вас такое не міне.

Каго раней, каго пазней...
Адзін канец ва ўсіх людзей.

Жывіце, покуль сілы ёсць,
хоць кожны з вас там толькі госць.

Я з вамі стрэнуся яшчэ,
але пакуль ваш час цячэ,

цярпліва буду вас чакаць,
каб зноў з усмешкай прывітаць.

На незлічоныя гады
мы будзем разам — назаўжды.

## 7. КАХАНАЙ,
## якая не кахала мяне, але пакахае

Каханая мая,
мяне ты не кахала,
майму ж каханню неставала меж.
Яму было зямной прасторы мала
й завоблачных вяршынь высокіх веж.

Дзеля цябе я быў на ўсё гатовы,
маліўся на цябе, бы на абраз.
Адзін пагляд твой абясцэньваў словы,
а лёгкі крок твой запавольваў час.

Не верыў сну,
выходзіў на дарогу,
якою звыкла ты дамоў ішла,
і так хацеў патрапіць у аблогу
твайго, мне недаступнага, жытла.

Я марай жыў, хаця і меў сустрэчы
і пад руку парою браў цябе,
ды знаў, што заляцацца недарэчы,
і давяраўся суму і журбе.

Калі ж усё мінула назаўсёды
і так тваё не склалася жыццё,
чакаю я шчаслівае нагоды,
што ты маё раздзеліш пачуццё.

Сумневу ані кропелькі не маю:
надарыцца яна,
бо толькі тут
любоў пануе;
гэта ты спазнаеш,
калі зямных пазбавішся пакут.

## 8. ЧЫТАЧАМ,
## якія нарэшце прачытаюць маю споведзь

Мяне няма,
але я ёсць — адсутны
на час, які вядомы толькі мне.
Цяпер я пэўны:
ісціна і сутнасць —
у немаце, як некалі ў віне,
якое я любіў,
і ў тым прызнацца,
нібыта зноў вярнуцца на зямлю,
ды не хачу туды назад вяртацца —
я слодыч іншую цяпер люблю.
Яна, як і віно, але без хмелю,
глытка яе стае на сто вякоў,
хаця насуперак зямному зеллю
яна не грэе, а халодзіць кроў.
А кроў мая — ужо не кроў,
а сокі
дрэў, зёлак, траў, каравае зямлі,
бо наступіў мой поўдзень найвысокі —
мой дух анёлы ў неба паднялі.

І я лячу над роднаю зямлёю,
над роднай хатай зоркаю свячу
і разумею ўсіх, хто быў са мною,
але да іх вяртацца не хачу.

## ЭПІЛОГ

І ў шчасці, і ў горы
memento mori!*

*Жабінка,*
*8. 03. 1998 — 22. 05. 2001*

---

* Помні пра смерць (*лац.*).

*Алесь КАСКО*

# Што двойчы стала словам

Таленавіты і адукаваны, але, як гэта зазвычай бывае, сціплы і самотны паэт Гадулька — адна з «уклееных», ды адна з самых яркіх, пакуль што не ўсім вядомая жыццяпісная і творчая старонка Васіля Сахарчука. Зрэшты, хто ў чыё жыццё ўвайшоў больш, казаць не бяруся: яны, аднойчы сустрэўшыся, сталі братамі па духу, існымі аднадумцамі ў слугаванні паэзіі, роднаму Слову.

Гэта было на самым пачатку васьмідзесятых...

Пра саўгаснага пастуха, які піша вершы, першаму вяскоўцы паведамілі мне, тадышняму, як і Васіль Сахарчук, жабінкаўскаму журналісту, хіба што з крыху большым стажам; у дадатак я лічыўся кіраўніком раённага літаб'яднання. Навіна зацікавіла, аднак росшук дзівака, які не толькі выпівае, а і цешыць вершамі рэдкіх хаўруснікаў — мне «падалі» яго так, — я адклаў да зручнага выпадку: буду з рэдакцыйным заданнем у ягоных мясцінах, тады і зайду (выпадак не надарыўся — я неўзабаве перайшоў на тэлестудыю ў Брэст).

Зусім інакш паставіўся да загадкавага паэта Васіль. Інтуіцыя, ды і логіка, і дабрыня беспамылкова падказалі яму: калі чалавек дасюль не аб'явіўся сам, не назаляе рэдакцыі сваімі вершамі, дык ён, мусіць жа, не абы-хто, не шарачковы графаман, якіх у раёне было нямала і чые творы мы ўтрох (трэці — Расціслаў Бензярук) «падцягвалі за вушы». Можна было, вядома, і памыліцца, але ж ці мала ў нашай літаратуры адваротных памылак?..

Давер паміж двума Васілямі ўсталяваўся адразу. Ці не з першай жа сустрэчы Сахарчук прывёз тузін вершаў Гадулькі — вершаў патаемных, далёкіх ад тых свавольных і лёгкіх, што чыталіся аўтарам у «кумпаніях». І неадкладна

